НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 7 (207)
14 ЛЮТЫ 1960 г.
БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА
Цана 60 гр. Cena 60 gr.

ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ

# ПРАШУ РАЗВАЖЫЦЬ

Хачу выказаць сваё меркаванне накont арганізацыйнай структуры і дзейнасці Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Як вядома, да гэтага часу ў павятовых аддзелах нашага Таварыства працавалі штатныя сакратары праўленняў аддзелаў. У Галоўным праўленні БГКТ апрача штатнага старшыні і сакратара было яшчэ два інструктары, якія кантралявалі працу сакратароў павятовых маю думку, дзіўным было б прызначыць асобную інструктарскую сілу на Дубровскі павет, дзе тэрыторыя, заселеная беларускім насельніцтвам невялікая. Гэтае самае можна сказаць і аб Сямяціцкім павеце.

А адзін інструктарскі штат, які ў выніку такога падзелу застаўся б вольным, прапаную пакінуць для цэнтральнай працы ў Галоўным праўленні БГКТ і для кіравання бягучай дзейнасцю гарадскіх аддзелаў БГКТ і асабліва прапагандаванне «Нівы»; асноўны інструктаж беларускіх мастацкіх гурткоў і кіраванне іх арганізацыйна - практычнымі пачынаннямі; супрацоўніцтва з інспектаратамі асветы пры арганізаванні павятовых аглядаў мастацкіх гурткоў і павятовых канферэнцый настаўнікаў беларускай мовы; праўленне пастаянная зацікаўленасці беларускім чытальніцтвам.

А інструктару для цэнтраль-

(Працяг на стар. 2)

Новыя вершы

МАКСІМ ТАНК

## ПЕЧ

Сябры мае, ці засыналі калі вы
На печы, пад спеў цвыркуна сіратлівы?
Ці бачылі, як маці ранняй часінай,
Узяўшы смалісты агарак лучыны,
Схіліўшыся, дзьме на вуголле ў пяколку,
Пакуль яно не разгарыцца вясёлкай?
Ці грэлі вы змерзлыя рукі ля печы
Пад гукі і казак і песень спрадвечных.
Загледзеўшыся, як агонь весяліцца
І скача па дровах жаўтою, сініцай?
А бачылі, як у гаршках закіпае
Бацвінне ці бульба — і пена шугае?
Як пражыцца боб і гарох на патэльні,
Пякуцца бліны з караваем вясельным?
Як сушацца ягады, зёлкі, з грыбамі —
Тугімі, паджарымі баравікамі?..
Я мог бы, сябры, звонкай одаю нават
Ці нейкай паэмай печ хатнюю ўславіць.
І ўсё ж я шкадую, што з доменнай печчу
Я меў мімалётную толькі сустрэчу.
Напэўна, была б мая песня званчэйшай,
На тоны руды залатой багацейшай.

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Супрасль у Гарадку. Фота — С. Кішыцкі

аддзелаў. У канцы 1959 года штаты сакратароў праўленняў павятовых аддзелаў ліквідаваны. Сакратары не здалі экзамену ў практычнай, канкрэтнай дзейнасці. Замест гэтага створана пяць штатаў інструктараў Галоўнага праўлення БГКТ.

У сувязі з гэтым прашу разважыць такую прапанову.

Перш за ўсё лічу патрэбным, каб працу інструктароў падзяліць на наступныя раёны (падаю паветамі): Саколка — Дуброва, Беласток, Гайнаўка і Бельск — Сямяцічы. Як бачым, вылучаюцца тут чатыры раёны інструктарскай працы. Бо на у Беластоку і Варшаве.

Што магу сказаць на апраўданне прапанаванай мною арганізацыйнай структуры БГКТ?

Штат інструктара Галоўнага праўлення даволі высокі. Гэта дазваляе ангажаваць да працы асоб з высокім інтэлектуальным узроўнем, якія патрапяць знайсці выхад з любога становішча. Іх выключным абавязкам была б арганізацыйная дапамога гурткам БГКТ і падсоўванне ім праблематыкі дзейнасці; сувязь з беларускім настаўніцтвам на штодзень, асабліва з настаўнікамі беларускай мовы; кальпартаж выданняў най працы ў Галоўным праўленні БГКТ хіба таксама не ўдалося б «прасядзець» толькі сваіх восем гадзін працоўнага дня. Мае знаёмыя — дыскутанты, з якімі я дзяліўся сваімі думкамі, прапануюць назваць яго (аднаасабовым) «аддзелам прапаганды». Пры цяперашніх аспірацыях БГКТ гэтаму «аддзелу прапаганды» было б, як кажуць, дай Божа вытрымаць! Перадусім праца з Беларускім літаратурным аб'яднаннем, Беларускім мастацкім аб'яднаннем, Беларускім навуковым гуртком. Беларускай секцыяй

(Працяг на стар. 2)

# ЛЮДЗІ і МІКРОБЫ

За горадам, на прасторнай плошчы, агароджанай драцяной сеткай, стаяць, аддаленыя адзін ад другога на некалькі сот метраў два аднапавярховыя будынкі. У адным з іх ужо працуюць, другі, які мяне цікавіць, стаіць яшчэ пусты. Суправаджае мяне па ім тав. Аляксей Ажэхоўскі, сакратар мясцовай партыйнай арганізацыі. На першы позірк відаць нядбайнае выкананне апрацоўчых работ: драўляная абсталёўка дрэнна пагэблявана, усё, што памалёванае, выглядае гідка, паркет у некаторых месцах ужо павыпінаўся, а яшчэ не быў гэбляваны.

— Справа цягнецца ўжо два гады, — кажа тав. Ажэхоўскі. У 1958 годзе дзяржава дала сродкі на адаптацыю, а Павятовае рамонтна - будаўлянае прадпрыемства ў Бельску - Падляскім узялося выканаць рамонт, але да гэтых пор не можа закончыць гэтай працы.

— Чаму? — пытаю.

— Бо так працуюць.

### КЛОПАТЫ ДЫРЭКТАРА

— Чаму так доўга працягваецца тэрмін здачы для карыстання заразнага аддзела?—пытаю дырэктара бальніцы д-ра Пухнарэвіча. Дырэктар адказвае коратка і рашуча:

— Нядбайнасць фірмы, якая праводзіць рамонт, але гэта пакуль што агульная з'ява. Напрыклад, у Белавежы будуюць бальніцу ўжо тры гады. Наш заразны аддзел за месяц, думаю, пачне працаваць. Ён ужо гатовы, чакаем толькі на выканчэнне ачышчальні нечысці, без якой мы не можам палажыць туды хворых. Маем і іншыя клопаты, якія перашкаджаюць нам у працы. Галоўная частка нашай бальніцы аддалена адсюль на 2 км. Гэтую адлегласць трэба штодзень праходзіць па некалькі разоў, а нашыя сродкі руху — гэта уласныя ногі і конь з брычкай, ці санямі. Гэтыя конь, акрамя нас, павінен перавесці прадукты, лякарствы і хворых на рэнтген, бо на месцы маем толькі малы рэнтгенаўскі апарат.

(Працяг на стар. 3)

Ватыкан, якім бачыў яго я сам (3)

# РАСПУСНІКІ У СУТАННАХ

Чалавека стварыў бог па «вобразу і падабенству свайму», — вучаць царкоўныя кнігі. Вось чаму спачатку было найвялікшым святатацтвам парушыць «вобраз бога», рабіць аперацыі чалавеку, ускрываць і г. д. Калі 180 гадоў назад італьянскі ўрач Вязаліо захацеў праверыць, ці аднолькавая колькасць рэбраў у мужчыны і жанчыны, яго кінулі ў турму. Сёння ж любы ксёндз ці поп, калі захварэе, то не моліцца, а выклікае ўрача. Папа Пій XII меў асабістага ўрача Галіяцо Лізі, хірурга прафесара Ніганса і інш.

Папа неаднаразова прымушаў сваіх урачоў рабіць яму аперацыі «расцітуцыю цэлуларыю» (амаладжэнне з дапамогай падсадкі палавых гармонаў іншых людзей і жывёл). Многія жыхары Рыма, духавенства былі вельмі абураны гэтымі ўчынкамі, таму што царква сцвярджала аб часовасці жыцця на зямлі і вечнасці жыцця на «тым свеце», «на небе», куды веруючыя павінны імкнуцца трапіць як мага хутчэй. Папа ж Пій XII, наадварот, імкнуўся пажыць як мага больш тут, не даваряючы біблейскім казкам аб жыцці «там».

Студэнтам удзёўбвалі ў галовы, што каталіцкае духавенства не можа ўступаць у шлюб, мець сувязь з жанчынамі. Калі такое заўважалася за якім-небудзь ксяндзом і веруючыя ведалі аб гэтым, падымалі скандал, на вінаватага накладвалася адміністрацыйнае спагнанне. Калі ж веруючыя не ведалі, то начальства абмяжоўвалася накладваннем індывідуальнага спагнання, эпітіміі (дадатковыя маленні, пасты). У некаторых, вельмі скандальных выпадках ксёндз ссылаўся ў манастыр. Ужо сама сістэма спагнанняў пакідала магчымасць для распусты. І ёю займаліся ўсе, пачынаючы ад папы і канчаючы апошнім манахам — прыслужнікам у акадэміі і студэнтамі.

Мы часта наглядалі, як машына Цісерана — «крайслер» спынялася на плошчы Фіуме, на рагу вуліцы По. Там стаяла віла, у якой пражывала італьянка з дзвюма дочкамі. Жанчына нідзе не працавала, а жыла на шырокую нагу. Не была яна ніколі ў шлюбе, хоць мела дзяцей. Старэйшая дачка, Ліна, была дакладнай копіяй кардынала Цісерана. Не дарэмна па пятніцах і суботах яго машына начавала ў гаражы той італьянкі! Ад студэнтаў цяжка было што-небудзь утаіць.

Рэктар акадэміі Эчары часта наведваў сям'ю брамніка Умберта, асабліва тады, калі яго самога не было дома. І ў даным выпадку гісторыя паўтарылася — у 1944 годзе нарадзілася дзяўчынка, вельмі падобная на рэктара. У іншыя дні студэнты пацяшаліся, калі нейкая жанчына, што часта насіла фрукты і гародніну на кухню акадэміі да кухара-манаха, раптам з «нейкай» прычыны пачынала ўчыняць яму скандалы, біць шыбы.

Па законах Ватыкана ксёндз не мог заходзіць у кафэ ці рэстаран на тэрыторыі Рыма. Затое ў Албано і Нептуно, прыгарадных мястэчках, нярэдка можна было наглядаць ксяндзоў і студэнтаў, якія напіваліся да бессаромнасці ў кампаніі вельмі ўжо вясёлых дзявак.

**Д. БЯСЧАСНЫ**
былы выхаванец папскай духоўнай акадэміі ў Ватыкане



Варвара Гулакова ля снапоў канапель.

### 4-ОХМЯТРОВЫЯ КАНОПЛІ

Небывалы ўраджай канопель сабраў у бягучым годзе калгас ім. Сталіна ў Бранскай акрузе. На вялікім абшары калгасавышыня сцеблаў канопель дасягала 4 метраў. Пры такіх высокіх сцеблах калгас атрымаў па 12 цэнтнераў валакна з кожнага гектара.

### АВЕЧКА - РЭКАРДЗІСТКА

Авечка ў Новай Зеландыі нарадзіла шэсць ягнят. Усе яны жывыя і добра растуць, хоць чатыры з іх кормяцца штучна.

## Усякая ўсячына

### ЦІ ПРАЎДА, ШТО САВА РАЗУМНАЯ?

Прынята лічыць, што сава вельмі разумная. У сапраўднасці сава дурнейшая не толькі ад асла, але і ад хатняй куркі. Памылковым з'яўляецца сцвярджэнне, што яна ўначы бачыць лепш, чым удзень. У сапраўднасці яна дрэнна бачыць і ўдзень і ўночы. Толькі слых сава мае добры, і ім яна кіруецца лепш чым вачыма.

### НЕПІСЬМЕННАСЦЬ У ЗША

Амерыканскія асветныя ўлады здзівілі грамадскую думку паведамленнем, што ў ЗША ёсць каля 10 мільёнаў асоб, якія не ўмеюць чытаць, а нават не патрафяць падпісаць сваё прозвішча.

### АСАБЛІВАЯ ПАМЯЦЬ

18-гадовы студэнт геаграфіі ў Францыі на працягу 7 гадзін працы намаляваў з памяці карту свету, на якой не толькі былі адзначаны важнейшыя горы і рэкі, але таксама звыш 500 гарадоў, і то ўсё ў адпаведным месцы. За гэта быў ён залічаны ганаровым членам французскага геаграфічнага таварыства.

### ПІСЬМО НА ВАЛАСКУ

Армянін Эдуард Казарыян выспецыялізаваўся ў мікраскапічным пісьме. На людскім валаску ён выпісаў сказ: «Брацкі прывет армянскага народа нямецкаму народу».

Гэтае пісьмо можна выразна прачытаць пад мікраскопам. Валасок з надпісам ён падарыў нямецкім інжынерам.

### РЭКОРДЫ

Адзін студэнт з універсітэта ў Ноттігаме (Англія) вырашыў пабіць сусветны рэкорд у падаванні рукі. «Рэкорд» да гэтага часу належыў да прэзідэнта ЗША Тоадора Рузвельта, які ў 1907 годзе падчас аднаго з прыёмаў падаў руку 8 513 асобам.

Студэнт стаў на рынку ў Ноттігаме і падаваў руку кожнаму прахожаму. Пасля 9 001 прывітання — перастаў падаваць руку па прычыне курчу мускула. Аднак ён пабіў сусветны рэкорд.

### КАРОВА -РЭКАРДЗІСТКА

У ПГР Пажачэва (павет Косцян) ацялілася карова, выдаючы на свет аж 5 цялят (два бычкі і тры цялушкі). Цялят закупіў заатэхнічны інстытут Польскай Акадэміі навук.

Усе пяцёра цялят добра сябе адчуваюць. Навучыліся ўжо піць малако з вядра. На працягу апошніх 10 дзён значна прыбылі на вазе, і важаць яны ад 35 да 45 кг.

### РАКА, У ЯКОЙ ПЛЫВЕ НЕ ВАДА, А ДРЭВА.



Штогод сібірскімі рэкамі сплывае да паўночных портаў сотні тон дрэва. Вось як выглядае русла Мана. Як вокам глянуць — бурлівы драўляны фон. З самалёта цяжка ўбачыць ваду. У мінулым годзе «перавезена» такім чынам каля 2 мільёнаў кубаметраў дрэва.

### ТКАНІНА З МЕТАЛУ

Манчэстарскі фізік Товард Рыс знайшоў спосаб вырабу тканіны з алюмінія. Ён сцвярджае, што гэтая тканіна прыгодная да вырабу агнеўпорнай адзежы. Тканіна мае прыгожы выгляд і годная на жаночых ўборы.

# КУРЭННЕ ЗНІШЧАЕ ЗДАРОЎЕ

Апошнім часам многа гаворыцца і пішацца аб шкоднасці курэння.

Гэтае пытанне набрала асаблівага значэння з той пары, калі дэпартамент аховы здароўя ў ЗША паведаміў, што курэнне з'яўляецца прычынай рака лёгкіх. З гэтага часу шкоднасць курэння для арганізма чалавека стала сур'ёзнай праблемай. Медыцына пачала задумвацца над пытаннем, як выключыць тытунь з жыцця грамадства. Знайшліся і такія, якія пачалі заклікаць да вытворчасці папярос без тытуню. Пастаўшчыкі тытуню паднялі крык.

Як пойдзе гэта справа далей, пакажа час. Цяпер цвёрда вядома, што дым тытуню не спрыяе здароўю.

Вучоныя гавораць аб многіх канкрэтных фактах, якія пераканаўча даказваюць, што дым тытуню мае адмоўны ўплыў не толькі на фізічную дзейнасць арганізма, але і на псіхічную. Доследы, праведзеныя сярод спартсменаў, паказалі, што курэнне тытуню памяншае цэльнасць кідкоў іграка ў баскетбол.

Адна выкураная папяроса памяншае на 12 прац. цэльнасць кідкоў, 2 папяросы на — 14,5 прац. і г. д.

Курэнне папярос мае адмоўны ўплыў і на почырк Почырк 13-гадовага юнака, калі ён курыць, няроўны пашарпаны, заўсёды нахіляецца ўніз. Аб адмоўным уплыве тытуню на дзейнасць мозга найлепш сведчаць экзаменацыйныя ацэнкі вучняў школы ў Алобане (ЗША). Сярод 100 вучняў, якія кураць, ацэнкі 5 мела толькі 26 прац., а на 100 вучняў некурачых выдатныя ацэнкі мела 74 прац. вучняў. І наадварот. На 100 вучняў, якія кураць, дрэнных ацэнак было 68, у той час, калі сярод гэтай самай лічбы ў некурачых, двоек было толькі 32 прац.

Зразумела, што курэнне з'яўляецца шкодным для здароўя. Аб гэтым можна пераканацца і так: варыць адну папяросу ў 50 см³ вады і гэтым выварам памачыць вока голуба. Акажацца, што адна капля гэтай вадкасці забівае птушку менш як за мінуту. Людзі аднак кураць. Чаму? Проста з лёгкадумнасці, па прывычцы.

Падлічана, што абшар зямлі заняты для вырошчвання тытуню на цэлым свеце займае 3 мільёны 600 тысяч гектараў. Значыць, абшар, на якім расце тытунь, перавышае на 400 тысяч гектараў тэрыторыю Бельгіі.

Гадавая вытворчасць тытуню складае 34 мільёны тон. Каб гэты тытунь пагрузіць на вагоны, дык цягнік з вагонамі меў бы даўжыню, як ад Лондана да Масквы. Падлічана таксама, што людзі, якія кураць, складаюць лік 900 мільёнаў. У самай толькі Польшчы жыве 11 мільёнаў курцоў.

* * *

Многія людзі хочуць адвучыцца ад курэння, але робяцца бяссільнымі і не могуць змагацца з гэтым.

Вучоныя многіх краін працуюць над радыкальнымі сродкамі, якія памаглі б чалавеку перамагчы курэнне.

У апошніх месяцах мінулага года, як паведаміла нашая прэса, вынайдзен першы польскі сродак, які дапамагае адказацца ад курэння.

Гэты прэпарат пад назвай «antinicotin» выпрадукаваны Аддзелам фармакалогіі Медыцынскай Акадэміі ў Беластоку. У хуткім часе «antinicotin» будзе ў нашых аптэках. Лякарства гэтае становіцца вядомым і за мяжой. Не так даўно аб гэтым лякарстве пісаў часопіс «Вечэрні Кіеў».

М. С.




# СКАРГА ДА НЕБА

Ну і гармідар на свеце, грамадзяне мілыя. Я ўжо колькі начэй ад гэтага спаць не магу. А ўсё з-за Адэнаўэра. Гадуе, акаянны новую саранчу. Поўзае яна па нямецкіх вуліцах, на сценах гітлераўскія крыжы малюе, дэманстрацыі наладжвае, і прасоўваецца ў іншыя краіны.

А ён і ў вус не дуе. Награшыў, стары ліс, і хутчэй у Рым за адпушчэннем грахоў.

Зразумела, Іван дваццаць трэці папа рымскі, прыняў Адэнаўэра з раскрытымі рукамі. Паблагаславіў. Ганаровую варту паказаў, кавай напаіў.

У адказ Адэнаўэр звярнуўся да папы Івана з прамовай на ватыканскай гаворцы: мы, — маўляў, — надзея веруючых. У наш час бог даручыў нямецкаму народу стаць на варце Захаду, супраць магутнага ўплыву Усходу. Так і сказаў, падла, каб яго курыца заграбла. Забыўся, што іншы папа, Пій XII, на такія самыя подзвігі благаславіў яго сябру па фаху, людаеда Гітлера.

Да гэтай кампаніі далучыўся японскі прэм'ер Кішы: з Амерыкай дагавор аб ваенным супрацоўніцтве падпісаў. Адэнаўэр радуецца: стары саюзнік з восі Берлін—Токіо—Рым дзейнічае.

Тая вось даўно паламалася, але сёння знайшліся кавалі для рамонту фашысцкага рыдвана.

Збіраўся я пісаць скаргу на Адэнаўэра да папы рымскага, але, разважыўшы, не стаў гэтага рабіць. Нічога з гэтага не выйдзе, — падумаў я, — ён жа Адэнаўэру грахі адпусціў. Выходзіць, што трэба пісаць скаргу на самога папу. Але на папу можна скардзіцца толькі ў нябесную канцылярыю, а туды пошта не даходзіць.

Уся мая надзея на савецкія ракеты. Мо' папутнай ракетай дабяруся як-небудзь туды і прапхну сваю скаргу.

*Дзядзька Левамь*



Адэнаўэр і лаўры Гітлера.

Мал. М. Абрамова

# КУЛЬТУРА-ГІП, ГІП-УРА!

Зала расплывалася ў клубах дыму. Дзеці і старыя перамяшаліся паміж сабой. Нехапала месц. Больш смелыя лезлі на сцэну. Малыя артысты, запхнутыя ў куток, не маглі нават паварушыцца. Выступалі яны з аматарскай пастаноўкай інсцэніраванай «Казкі аб зачараваным качары» з выпадку навагодняй ёлкі, арганізаванай настаўнікамі школы для дзяцей. Дзеці ігралі, як маглі. Пастаноўка была нядрэннай. Але праз залу пераліваўся магутны говар, як гоман узбураных хваль. Трэба верыць, што гэта быў прызнак задавальнення. Тым больш, што ў тую хвіліну пачуў я каля сябе:

— Чуеш, Валодзя, зробім паўлітра?

— Чччаму нхне, — адказаў той.

Калі на сцэне паявілася рослая дзяўчынка, ухарактарызаванай за злую княгіню, нейкая жанчына не вытрымала.

— Кума! — закрычала, — гэта ж ваша Нінка!

— А хто вы думалі?! — з гордасцю адказала кума.

— Будуць з яе людзі, — дадала ёй суседка.

З-за плахты, павешанай замест заслоны, высунулася настаўніца — — рэжысёр пастаноўкі.

— Прашу прысутных аб цішыні! — адазвалася дрыжачым голасам. — Прашу цішэй!

Яе голас расплыўся ў агульным энтузіязме.

— Прашу цішыні! — паўтарыла з мальбою.

На гэта з калідора адказаў ёй магутны, перапіты бас:

«Расцветалі яблані і грушы».

Пастаноўка йшла далей. Энтузіязм у зале рос. Аж урэшце трэба было адказацца ад часткі праграмы. Давялося адкінуць старанна падрыхтаваныя вершы і песні. Яны, нажаль, аказаліся лішнімі. Публіка і так высока ацаніла талент сваіх дзяцей. Так была ўсхвалявана, што забыла іх узнагародзіць хаця б воплескамі.

А адбылося гэта вечарам 19 студзеня ў вёсцы Вулька - Нурэцка, Сямяціцкага павета.

**ВІКТАР РУДЧЫК**




— Вы даўно чакаеце?

Мал. М. Вайсборда

### АШУКАЎ

Аднойчы, будучы ў горадзе, зайшоў Янка ў сталовую і загадаў падаць чай і цукар. Калі яму гэта прынеслі, ён чай выпіў без цукру, а цукар прынёс да хаты і кажа да жонкі:

— Але я ашукаў іх!

**Юрка Раманчук**
Гушчэвіна

### НАПАІЎ

Бацька да сына: «Пайдзі напаі каня»

Пайшоў сын паіць каня. Па нейкім часе вяртаецца.

Бацька: «Напаіў?»

Сын: «Напаіў.»

Бацька: «А чаму храпы сухія?»

Сын: «Бо конь да вады не дастаў».

**Мікола Лапінскі**
Тынкоўшчына

### ГАВАРЫЎ ПРАЗ СОН

Жонка раніцай крычыць на свайго мужа:

— Ізноў ты, душачка, гаварыў праз сон. Няма табе спакою.

— Не гневайся, дарагая, — кажа муж, — калі ж мне гаварыць як не ўначы. То ж у дзень ты і слова не дазволіш сказаць.

**Марыя Кахановіч**
Белявічы

## Спевы Андрэя Самасея сёння ў праграме

### ШТО ЗРАБІЦЬ, КАБ У АЎГУСТОВЕ НЕ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Прысвячаецца аднаму настаўніку з Бельскага павета**

Я нарадзіўся ў вёсцы Аўгустова,
Дзе і дагэтуль мне прыйшлося жыць.
Мне кажуць — роднай тая мова,
Якой я навучыўся гаварыць.

Якой спявала калыханкі маці,
Калі яшчэ ў калысцы я ляжаў,
Якой я карыстаўся ў хаце
І на якой з сябрамі размаўляў.

Якой прыйшлося мне вучыцца ў школе
І веды ў гэтай мове здабываць.
Ці родная яна? У тым ніко?
Мяне ніхто не змог пераканаць

І думаю, мяне ніхто не зможа
Пераканаць, пакуль я буду жыць,
Што гэта мова надта ёсць прыгожай
І што яе павінен я любіць.

Я проста ненавіджу гэтай мовы,
Чаму? Дык нават цяжка мне сказаць.
Хацелася б аднак, каб у Аўгустове
Ёй людзі перасталі размаўляць.

Ды што зрабіць, калі яна ў народзе
Як ад вякоў, жывучая далей.
Яна, як цень за мною заўжды ходзіць
І не магу ніяк пазбыцца ей.

Яна мне сніцца, як у пакаранне,
Спакою не намерана ўжо даць.
Мне нават з гэтай мовай навучання
У школе давялося працаваць.

Таму ў сваёй я вёсцы ды ў павеце.
Усіх, каго хацеў, агітаваў,
Каб у Аўгустове мае і іншых дзеці
Той мовы больш ніхто не навучаў

І ўжо, здаецца, яе пахавалі,
Каб больш ёй тут у школе не бываць,
Аднак такія ёсць, што заважалі
У школе зноў яе уваскрашаць.

Прашу, парайце мне, сябры, талкова,
Што маю я далей ужо рабіць,
Каб тут у школе, у вёсцы Аўгустова,
Той мове больш ніколі ўжо не быць.

**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**

## САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ГАСЦІНА

Прыехаў кум да кума ў госці. Гаспадар пасадзіў госця за стол, паклаў пачку папярос і ўсё запрашае:

— Куры, кум, куры.

Калі ўрэшце гаспадар выказаў свой жаль па прычыне таго, што не прыехала кума, госць адказаў:

— Даражэнькі куманёк, кума тады прыедзе, калі навучыцца курыць.

**Віктар Стэльмашук**
Дубляны

### ПАДОБНЫ

Адна жанчына купіла ў мясніка свінячую галаву, але не магла прыдумаць, як яе занесці дадому. Урэшце знайшла выхад. Яна паклала яе ў дзіцячы возік, накрыла коўдрай, дзіця ўзяла на рукі і, пхаючы перад сабою возік накіравалася да дому. Па дарозе сустрэла знаёмага. Ён пачаў яе віншаваць, думаючы, што ў яе нарадзілася яшчэ адно дзіця. Пры гэтым ён прыпадняў коўдру, каб пацікавіцца новым патомкам знаёмых. Убачыўшы там задзёрты лыч, ён ад нечаканасці сказаў:

— Ах, мой Божа, зусім падобны да бацькі.

**Пятро Кебус**
Беласток

«У Белавежы наглядаецца празмерная колькасць зуброў-самцоў». (З газет)




— Ці не будзе ў вас чаго - небудзь для мяне?

Мал. З. Зёмецкі